*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **№ 19 (179)** ◈ 11 траўня 1994 г. ◈ Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***НА НЕЧАРГОВАЙ 14-Й СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АБРАНЫ І ПРЫВЕДЗЕНЫ ДА ПРЫСЯГІ 9 ЧЛЕНАЎ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА.*** *Паколькі кандыдатуру на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда парламента павінен прапанаваць прэзідэнт, то пасада пакуль што засталася вакантнай. Абавязкі старшыні будзе выконваць старэйшы па ўзросту суддзя Валерый Ціхіня. В. Ціхіня з моманту абрання членам суда ў адпаведнасці з законам спыняе сваё членства ў Партыі камуністаў Беларусі і абяцае ўвогуле адысці ад палітычнай дзейнасці.*

**ГРУПА ЮРЫСТАЎ З АПАРАТУ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА НАПІСАЛА ЗАКЛЮЧЭННЕ АБ ДАГАВОРЫ АБ АБ'ЯДНАННІ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ.** Ён, на іх думку, не пярэчыць Канстытуцыі. У эксклюзіўным інтэрв'ю «Звяздзе» старшыня Нацбанка Беларусі Станіслаў Багданкевіч назваў гэтае заключэнне «юрыдычным вар'яцтвам». Гаворачы аб перспектыве аб'яднання, старшыня НББ заявіў, што, на яго думку, аб'яднання грашовых сістэм не будзе ні да прэзідэнцкіх выбараў, ні пасля іх.

***ЯК ПАВЕДАМІЎ 3 ТРАЎНЯ НА ПАСЯДЖЭННІ БЕЛАРУСКАГА ЎРАДА КІРАЎНІК КАБІНЕТА ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ,*** *першым віцэ-прэм'ерам Расіі Алегам Саскаўцом падпісана пастанова расійскага ўрада аб адмене мытных пошлін на расійскую прадукцыю, якая пастаўляецца на беларускі рынак.*

**3 ТРАЎНЯ ЎПЕРШЫНЮ АДЗНАЧАНЫ СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ДЭМАКРАТЫЧНАГА ДРУКУ.** З гэтай нагоды Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч прывітаў Саюз журналістаў і рэдакцыі перыядычных выданняў нашай краіны. Віншуючы са святам, ён адзначыў, што «адсутнасць адладжанай сістэмы фінансавага і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці рэдакцыйных калектываў паставіла многія перыядычныя выданні на мяжу выжывання. Але і ў гэтай крытычнай сітуацыі журналісты Беларусі не здраджваюць свайму прафесійнаму абавязку...» Адсутнасць адладжанай сістэмы фінансавання праявіла сябе: прыпынілі свой выхад газеты «Звязда», «Народная газета», «Советская Белоруссия». Хочацца спадзявацца, што гэта ненадоўга і што такі лёс не чакае і іншыя перыядычныя выданні.

***У ЗГУРТАВАННІ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА» ІДЗЕ РАБОТА ПА ПРАВЯДЗЕННІ ЛЕТНЯГА ЛАГЕРА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ НАШЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ З-ЗА МЯЖЫ.*** *Для іх зарэзервавана каля 120 месцаў, яшчэ каля 30— для хлопчыкаў і дзяўчынак непасрэдна з Беларусі. Летнік будзе праводзіцца на базе лагера «Зубраня» прыблізна 23 чэрвеня гэтага года.*

## Каб дзяржаўны гімн стаў народным

*У рэдакцыю прыходзяць лісты чытачоў з прапановамі сваіх варыянтаў новага дзяржаўнага гімна Беларусі. Некаторыя аўтары дапісаў выказваюць здзіўленне: абвешчаны конкурс, працуе адпаведнае журы, а калі будуць вынікі? Пра ўсё гэта і адбылася гутарка нашай карэспандэнткі з Нілам Сымонавічам Гілевічам.*

**— Шаноўны Ніл Сымонавіч, вось ужо два гады, як Беларусь стала суверэннай дзяржавай, а новага дзяржаўнага гімна ў нас усё яшчэ няма. Прайшоў конкурс на лепшы тэкст і мелодыю гімна, адбыліся публічныя праслухоўванні. Журы чамусьці не спынілася ні на адным варыянце, а зараз невядома, што робіцца дзеля таго, каб Беларусь атрымала свой гімн. Як старшыня Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны і старшыня конкурснага журы па гімну праясніце, калі ласка, сітуацыю.**

— Удакладнім: сёння гучыць толькі музыка старога гімна, без тэксту. Падобная сітуацыя склалася і ў Расійскай Федэрацыі. Там быў праведзены вялікі конкурс на тэкст гімна, у якім прынялі ўдзел некалькі соцень паэтаў, аднак ніводзін тэкст не задаволіў журы. У нас конкурснае журы працуе ўжо амаль два гады. Я пагадзіўся яго ўзначаліць, разумеючы, што гімн, сцяг і герб — галоўныя сімвалы дзяржавы і што нашай Камісіі даручана займацца гэтымі пытаннямі ў Вярхоўным Савеце. Як вядома, Законы аб гербе і сцягу Рэспублікі Беларусь выносіліся на сесію Вярхоўнага Савета Камісіяй па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны. На нашай Камісіі ляжыць абавязак давесці да канца і справу з дзяржаўным гімнам. Пасля стварэння журы, у склад якога ўвайшлі паэты, кампазітары, музыказнаўцы і іншыя дзеячы культуры, быў аб'яўлены конкурс. Ставілася задача напісаць новы гімн — і тэкст, і мелодыю. Разам з тым бралася пад увагу, што трэба паглядзець і тыя песні, якія ўжо калісьці выкарыстоўваліся ў якасці беларускага гімна або прэтэндавалі на гэтую ролю. Кампазітары адгукнуліся актыўна, чаго не скажу аб прафесійных паэтах. Усе тэксты, за нязначным выняткам, паступілі ад гэтак званых «самадзейных» аўтараў і, шчыра кажучы, не вытрымлівалі ніякай крытыкі. Пераважала пустаслоўная, ў старым духу, гімнічная рыторыка. Ні паэзіі, ні глыбокага зместу, якія б адлюстроўвалі наш гістарычны лёс і надзённыя задачы нашай дзяржавы, фактычна там не

*(Працяг на с. 2)*

## ВЕСТКІ

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ

У сувязі з увядзеннем візавага рэжыму ўезду ў Рэспубліку Беларусь каля Пасольства Беларусі ў Вільні, што знаходзіцца па вул. П. Кліма, 8, штодзённа натоўп. Усё тут напамінае савецкія часы, калі людзі сталі каля ювелірных крамаў, каб купіць залатыя рэчы.

Цяпер так адбываецца, каб набыць уязную візу ды паехаць у Беларусь. Людзі амаль круглыя суткі таўкуцца каля Пасольства ў чэргах, састаўляюць спісы чарговасці, робяць пераклічку, нервуюцца... Многія па пяць дзён сюды наведваюцца, каб залатвіць свае справы. Кантынгент людзей тут розны — спекулянты-камерсанты, працоўны люд, актывісты грамадскіх арганізацый і г. д.

Цяжэй за ўсіх прыходзіцца працоўным людзям, якім патрэбна адпрасіцца з работы, ды і «зялёненькіх» няма, бо, як вядома, іх няма дзе ўзяць, людзі ледзьве канцы з канцамі зводзяць.

Часта можна пачуць, як натоўп людзей скандзіруе: «Посла», «Посла», «Посла», «На выход», «На митинг»...

Зробленыя перагародкі (між Віленшчынай і Беларуссю ніколі не было мяжы) рэжуць па жывому.

◆◆◆

У газеце «Это Литвы» ад 8 красавіка надрукаваны праект Статута Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. Статут мяркуюць зарэгістраваць у Міністэрстве юстыцыі Летувіскай Рэспублікі, каб мець больш статус, чым раней, калі гэты Статут быў зарэгістраваны пры Летувіскім фондзе культуры!

◆◆◆

Падчас выбараў Прэзідэнта ў Рэспубліцы Беларусь ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю не застанецца ў баку ад гэтай важнай падзеі.

Многія сябры ТБМ уключыліся ці ўключацца ў перадвыбарную кампанію. Частка з іх падтрымлівае Зянона Пазьняка.

У цэлым кіраўніцтва ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю будзе агітаваць за Станіслава Шушкевіча.

Рады ТБМ Віленшчыны шчыра дзякуе за літаратуру на роднай мове, якую нядаўна атрымалі з Менска ад ТБМ і таварыства «Радзіма».

**Інфармацыйная служба ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю.**

## Расія і далей нам плаціць не будзе

***У № 15 за гэты год газета «Свабода» надрукавала карту размяшчэння расійскіх ваенных баз. Іх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь каля 50. Утрыманне расійскіх войскаў абыходзіцца нам, як ужо паведамляла газета «Свабода», у 1,9 млрд. долараў. Расія не плаціла і не плаціць за гэта ні капейкі. А пасля падпісанага 12 красавіка ў Маскве пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм двух краін — і далей плаціць не будзе.***



# КАБ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІМН СТАЎ НАРОДНЫМ

*(Працяг. Пачатак на с. 1).*

было. Таму гэтыя тэксты адпалі самі сабой. Паступіла і некалькі дзесяткаў песень, створаных супольна аўтарамі тэкстаў і кампазітарамі. У большасці выпадкаў тэксты зноў жа былі напісаны выпадковымі людзьмі. Некаторыя кампазітары проста даслалі сваю музыку ў спадзяванні, што яна будзе прынята як мелодыя будучага гімна і пазней да яе нехта з паэтаў напіша адпаведны тэкст. Мы неаднойчы збіраліся на праслухоўванне варыянтаў гімна. Адбыўся першы тур конкурсу, другі, затым трэці. Нарэшце мы спыніліся на лепшых па гучанні мелодыях і пазнаёмілі з імі грамадскасць пры дапамозе радыё і тэлебачання. На жаль, водгукі, якія прыйшлі, не падтрымалі ніводзін з варыянтаў. Што да старых вядомых песень, такіх, як «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» на словы М. Краўцова, «Не пагаснуць зоркі ў небе» і «А хто там ідзе» на словы Я. Купалы, «Пагоня» на верш Багдановіча, «Магутны Божа» на верш Н. Арсенневай, то яны таксама шырока абмяркоўваліся і ўважліва праслухоўваліся. Каб ад мяне аднаго залежала, каб мне сказалі: «Назавіце адзін з гэтых твораў — і на гэтым спынімся», я, не сумняваючыся, назваў бы «Магутны Божа» Арсенневай на музыку Равенскага, бо лічу, што гэта і ёсць сапраўдны гімн. На жаль, члены нашага журы вельмі дружна запярэчылі: маўляў, гэта духоўны гімн, для свецкага ён не падыходзіць. Я разумею, што духоўны і свецкі гімны маюць свае адметнасці. Аднак наколькі мне дадзена адчуваць мелодыю і змест твора Арсенневай, лічу, што ён мог бы стаць нашым дзяржаўным гімнам. Каго сёння можа бянтэжыць зварот да Бога? Магчыма, гэта якраз тое, чаго так не хапае нашаму духоўнаму жыццю, тым больш, што ў многіх гімнах свету маецца такі зварот. Урэшце яго можна разглядаць як паэтычную метафару. Бог — гэта сумленне, вера ў ідэалы людскія, і калі ўсё гэта дастасоўваецца да лёсу нашага народа, нашай дзяржавы, то, у маім разуменні, яно адпавядае зместу гімна. Аднак, паўтараю, з маёй думкай не палічыліся, і гэты варыянт адпаў таксама.

**— У такім разе што рабіць далей?**

— Члены журы прыйшлі да думкі, што трэба аб'явіць новы конкурс. А якім шляхам ісці? Вырашылі знайсці выдатны верш у нашай класічнай паэзіі і на яго тэкст аб'явіць конкурс для кампазітараў. Толькі на мелодыю. Пачалі шукаць такі верш і спыніліся на Купалавым «Маладая Беларусь». З 12 строф адабралі тры. Заключныя радкі верша, радкі гістарычныя, якія шмат папрацавалі на адраджэнне Беларусі, прапанаваны ў якасці прыпеву:

*Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,*
*Над крыжамі бацькоў, над нягодамі.*
*Занімай, Беларусь маладая мая,*
*Свой пачэсны пасад між народамі.*

Уласна кажучы, гэтыя словы і схілілі журы да таго, каб верш узяць за гімн.

**— Што Вы можаце сказаць пра гэты другі этап конкурсу?**

— Фактычна ён ужо завяршыўся. Вынік такі: на верш Купалы паступіла амаль трыццаць мелодый ад прафесійных кампазітараў і каля шасцідзесяці ад самадзейных музыкаў. Усцешна, што апошнія так шчыра адгукнуліся на конкурс. Гэта сведчанне іх заклапочанасці, іх нераўнадушнасці да вялікай дзяржаўнай справы. Вядома, і пэўнай наіўнасці. Але хіба ж тысячы і тысячы народных песень, папулярных і любімых, не напісаны «самадзейнымі» музыкамі?

Журы спынілася на трох мелодыях, кожная з якіх створана ў жанры гімнічнай музыкі і мае свае бясспрэчныя вартасці. Аўтары — старэйшына беларускіх кампазітараў Анатоль Багатыроў, кампазітары Віктар Войцік і Уладзімір Дарохін. Неўзабаве пачнецца праслухоўванне ўсіх трох варыянтаў гімна па радыё і тэлебачанні ў прафесійным харавым і інструментальным выкананні. Пасля чаго будзем збіраць водгукі, уражанні, ну і паглядзім, што скажа наша грамадскасць. Магчыма, нам скажуць: «Дзякуем аўтарам, дзякуем журы, але працуйце далей. Пакуль што гімна няма». Я асабіста гатовы і да гэткага зыходу, таму што настроіў сябе ў самым пачатку на нейкі ідэальны варыянт. Вельмі хочацца мець такі гімн, каб аж нам зайздросцілі — каб лепшы быў, чым ва ўсіх.

Нам ідуць папрокі ад грамадзян, што мы спазняемся з гімнам, але ж, шаноўныя і паважаныя, журы само не можа скласці гімн.

**— Чым вытлумачыць той факт, што ніхто са знакамітых паэтаў не ўзяў удзел у конкурсе?**

— Я аб гэтым таксама думаў. Магчыма, таму, што на першым этапе конкурсу настойліва праводзілася ў друку думка, што варта ўзяць за гімн адну з тых папулярных старых песень, якія прывязаны да нашай гісторыі. Спасылкі былі пры гэтым на тыя дзяржавы, дзе ў якасці гімна служаць песні гістарычнага зместу. Гэта магло стаць адной з прычын, якая спыніла жаданні паэтаў падключыцца да конкурсу. Калі б мы ўзялі для гімна гатовую песню з ліку вышэй названых, то пытанне было б вырашана, хоць гэтыя песні, шчыра кажучы, за выняткам Арсенеўскай, да гімна не дацягваюць.

**— А Купалава «Маладая Беларусь» цягне на гімн?**

— Верш?

**— Верш.**

— Страфа, выбраная для прыпеву, — так. Але ў друку гучыць і крытыка Купалавага тэксту — не як верша, а як гімна. Адны лічаць, што гэты твор занадта багаты на абстрактную, празмерна абагуленую сімволіку, таму ён цяжка ўспрымаецца і не запамінаецца. Іншыя пытаюцца: «Чаму не бярэцца для гімна ўвесь верш? Нядобра вырываць з твора некалькі строф». Ёсць заўвагі і па рытмічна-інтанацыйнаму ладу верша, з яго дыктылічнымі клаўзуламі, цяжкімі для кампазітара.

**— Ніл Сымонавіч, першы конкурс, скажам так, праваліўся. А што калі людзі запратэстуюць і на гэты раз? Не прымуць твор Купалы?**

— Асабіста я, паўтараю, гатовы да таго, што і гэты конкурс не дасць гімна дзяржаве і работа будзе працягнута. Думаю, што і ў такім разе, калі дзяржава жыве без тэксту гімна і карыстаецца старой мелодыяй, не трэба спяшацца, каб пасля не давялося ставіць пытанне аб яго замене.

**— А такое можа здарыцца?**

— А чаму ж не? Для прыкладу, многія народныя дэпутаты, асабліва з ліку ветэранскай арганізацыі, патрабуюць перагледзець нядаўна прынятыя на Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь Законы аб гербе і аб сцягу. Бачыце, яны думаюць, што з дзяржаўнымі сімваламі можна і так абыходзіцца. Сёння іх прынялі, прагаласавалі за іх, зацвердзілі, абвясцілі на ўвесь свет, а праз месяц ці праз год можна ўсё пачынаць нанава: закасаваць гэтыя сімвалы і прымаць іншыя. Так у цывілізаваным грамадстве не робіцца. Сімвалы — настолькі важныя рэчы ў дзяржаве, што з імі так лёгка абыходзіцца нельга. Калі пад збегам акалічнасцей наша сімволіка і мянялася — часцей за ўсё пад гвалтам, — то цяпер сляды гэтага гвалту зняты і мы вярнуліся да старой гістарычнай сімволікі. Я павінен сказаць, што не ва ўсіх былых сацыялістычных краінах мянялася сімволіка. Прыклад таму — Польшча, Балгарыя, дзе герб дзяржаўны не мяняўся.

**— У іх і старыя гімны захаваліся?**

— Захаваліся. У Польшчы гімну ўжо дзвесце гадоў. У Балгарыі пасля Другой сусветнай вайны стварылі былі новы гімн, але праз гадоў дваццаць зразумелі, што ён нікуды не варты, і ўзялі за гімн старую папулярную ў народзе патрыятычную песню.

**— Ці выносілася на сесію Вярхоўнага Савета пытанне аб замене дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь?**

— Яго прапаноўвалі ўключыць у парадак дня, аднак прапанова гэта не прайшла.

**— Вернемся да гімна. Калі адбудзецца яго праслухоўванне па радыё і тэлебачанні?**

— Спадзяюся, што ў самы бліжэйшы час. Праслухоўвацца будуць усе тры варыянты, як я ўжо сказаў, у высокапрафесійным выкананні хору, а таксама ў выкананні калектываў сімфанічнага і духавога аркестраў. Зараз ідзе вялікая падрыхтоўчая работа да азнаямлення грамадства з новымі варыянтамі гімна. Людзі чакаюць, аб чым сведчыць наша пошта.

**— Скажыце, а ці будуць надрукаваны ноты музычных варыянтаў гімна, акрамя таго, што мелодыя будзе праслухоўвацца па радыё і тэлебачанні?**

— Пра тое, што можна надрукаваць ноты, мы не падумалі, і ваша пытанне — для нас добрая падказка. Сапраўды варта апублікаваць ноты, каб музычна пісьменныя людзі маглі самі праіграць мелодыі і ўслухацца ў іх.

**— Ніл Сымонавіч, я трымаю ў руках новыя кніжкі, да якіх Вы маеце непасрэдныя адносіны — як аўтар і як укладальнік. Першая — зборнік публіцыстыкі Ніла Гілевіча пад назвай «Як не спыніць узыходу сонца», у якім праводзіцца ідэя аб незваротнасці працэсу адраджэння роднай мовы; другая — «Голас народа — голас Божы», якая даносіць да чытачоў лісты, тэлеграмы, звароты суайчыннікаў у Вярхоўны Савет, а калі канкрэтна, то ў Камісію па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, да Старшыні Вярхоўнага Савета сп. Шушкевіча і да Вас асабіста з просьбай абараніць і адстаяць дзяржаўнасць роднай мовы, не дапусціць у рэспубліцы дзяржаўнага двухмоўя. Памятаецца, многія матэрыялы, якія склалі гэтую кнігу, папярэдне друкаваліся ў «Нашым слове». І гэта нам прыемна. Мы вітаем яе выхад у свет. Шчыра кажучы, з'яўленне гэтай кніжкі і падштурхнула мяне на новае інтэрв'ю з Вамі. Мяркую, што сабраныя ў ёй матэрыялы адыгралі сваю гістарычную ролю — дапамаглі Вам і Вашым паплечнікам адстаяць у Вярхоўным Савеце дзяржаўнасць беларускай мовы?**

— Скажам так: яны нам паслужылі маральнай падтрымкай і падмогай.

**— Ці не плануеце Вы ў дадатак да гэтай кнігі апублікаваць яшчэ адну, у якой былі б сабраны матэрыялы, звязаныя са стварэннем нацыянальнага гімна: народныя песні, паэтычныя творы і лісты з заўвагамі, дасланыя грамадзянамі.**

— Сумняваюся, што ёсць неабходнасць публікаваць лісты суайчыннікаў з заўвагамі да тэкстаў, якія былі прадстаўлены на конкурс. Іншая справа, што наша журы паставіла, і мы гэту справу бяром пад кантроль, — выдаць кніжку лепшых твораў, якія паступілі на конкурс. Сярод іх ёсць неблагія песні, напісаныя як прафесіяналамі, так і самадзейнымі кампазітарамі ў садружнасці з паэтамі. Спадзяюся, што Міністэрства культуры, якому было даручана арганізоўваць конкурсы, давядзе справу да канца і выдасць такую кніжку. Аматары песні атрымаюць досыць цікавы, скажам так, зборнік патрыятычных песень пра Беларусь. Мне асабіста вельмі хочацца парадаваць гэтых адданых Бацькаўшчыне людзей — аўтараў песень — вось такой публікацыяй.

**— Ніл Сымонавіч, гімн — не адзіны Ваш клопат. Хацелася б пачуць колькі слоў пра работу Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны ў цэлым. Што цяпер у ёй добрага робіцца?**

— Пачну з таго, што гэтая Камісія заканатворчая, як і ўсе іншыя камісіі ВС. Галоўная наша задача — рыхтаваць і праводзіць на сесіі законы, якія датычаць нашай сферы — культуры, адукацыі, захавання гістарычнай спадчыны. За гэтыя без малога чатыры гады Камісія ў гэтай сваёй заканатворчай дзейнасці папрацавала нямала. Былі падрыхтаваны і прыняты на сесіі такія законы, як Закон аб мове, Закон аб адукацыі, Закон аб культуры, Закон аб захаванні гістарычнай спадчыны, Закон аб гербе, Закон аб сцягу, Закон аб назве рэспублікі. Падрыхтаваны на разгляд сесіі наступныя законы: Закон аб бібліятэчнай справе, Закон аб архівах і архіўнай справе, рыхтуецца Закон аб музеях і музейнай справе. Мы б хацелі да канца года, пакуль нашы паўнамоцтвы не скончыліся, правесці праз Вярхоўны Савет яшчэ і гэтыя, такія патрэбныя для нашай культуры і ў падтрымку нашай культуры законы. Адбылося абмеркаванне ў першым чытанні — так называецца канцэптуальнае чытанне — Закона аб бібліятэчнай справе. Далей будзе паартыкульнае яго абмеркаванне з прыкідкай, наколькі гэты закон адпавядае патрабаванням часу і рэальнасцям нашым, наколькі ў ім усё прадугледжана, увязана з іншымі законамі, наколькі ён адпавядае Канстытуцыі, нашым кодэксам, — адным словам, будзе выканана вельмі вялікі аб'ём работы. Звычайна ў рабоце над законамі мы карыстаемся паслугамі спецыялістаў, кожная камісія працуе з групай распрацоўшчыкаў. Наша Камісія невялікая, і спецыялістаў у ёй мала. Апрача таго, Камісія займаецца бягучымі пытаннямі, найбольш важныя з якіх разглядаюцца на афіцыйных пасяджэннях, а самыя важныя выносяцца на Прэзідыум Вярхоўнага Савета.

**— Законы, якія рыхтуюцца зараз на разгляд сесіі, будуць выносіцца на Прэзідыум Вярхоўнага Савета?**

— Не, гэтыя законы непасрэдна выносяцца на сесію. Яны абмяркоўваюцца на Кансультацыйным савеце, а не на Прэзідыуме ВС — створаны такі савет, які разглядае праекты законаў і прымае рашэнне выносіць ці не выносіць іх на сесію. Гэта — што датычыць законаў. Але ёсць пытанні, па якіх прымаюцца ўказы або пастановы Прэзідыума ВС. Такія пытанні таксама рыхтуюцца на Камісіі, і бываюць яны вельмі складанымі. Скажам, у 1992 г. на Прэзідыуме (па прапанове нашай Камісіі і намі падрыхтаванае) разглядалася пытанне: «Аб выкананні Закона аб мовах у сродках масавай інфармацыі». І Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў адпаведную пастанову, якая, канешне ж, як дзяржаўны дакумент такога ўзроўню, паспрыяла выкананню гэтага закона. Пастанова была прынята да ведама ўсімі сродкамі масавай інфармацыі рэспублікі. У якой меры выконваюцца такія пастановы — гэта ўжо іншае пытанне. Можна адзначыць, што кепска выконваюцца. І таму ў бліжэйшы час адбудзецца абмеркаванне пытанняў у такой фармулёўцы: «Аб ходзе выканання Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Пытанне ўжо падрыхтавана нашай Камісіяй да разгляду. Даклад Прэзідыуму Вярхоўнага Савета буду я рабіць. І даклад, і праект пастановы перададзены ўжо кіраўніцтву Вярхоўнага Савета. Чакаю, што ў бліжэйшы час пытанне будзе пастаўлена ў парадак дня на адным з чарговых пасяджэнняў Прэзідыума.

Зноў жа мы рыхтуем на Прэзідыум пытанне аб становішчы мастакоў і мастацкай творчасці ў Беларусі. Рэч у тым, што наша мастацтва, а дакладней творцы і мастакі ўсіх відаў і жанраў, ва ўмовах дзікага рынку апынулася ў вельмі цяжкім становішчы. Тут цэлы шэраг праблем і пытанняў у самых розных аспектах, якія трэба разгледзець, але перш за ўсё гэта пытанне аб матэрыяльна-фінансавай падтрымцы нашых мастакоў з боку дзяржавы, таму што ёсць небяспека, што плён працы многіх з іх мы проста страцім. Ёсць і шмат іншых важных пытанняў, якімі даводзіцца штодзённа займацца.

**— Шчыра дзякую за гутарку.**

**Распытвала**
**Ірына КРЭНЬ.**

ПАЧУТАЕ

# Хто мы?

***Падчас прэзідэнцкіх выбараў амаль ніколі не пустуе актавая зала выканкама. Сюды прыходзяць маладзечанскія бэнээфаўцы, нацыяналдэмакраты, грамадоўцы, тэбээмаўцы і кожны вечар спрачаюцца.***

***Выходзяць з залы яны заўсёды ўсхваляваныя, энерваваныя і распараныя ад спрэчак. І не перастаюць спрачацца ў вестыбюлі.***

***Адзін: «Дык ніякі мы не народ, беларусы, калі згодны пазбавіцца дзяржаўнай незалежнасці, якую нам падаравалі. Хіба гэта талерантнасць? Не! Ніякая гэта не цярпімасць беларускай нацыі да іншых народаў. Гэта завецца нацыянальным нігілізмам, пагардай да сябе. За стагоддзі замежнага панавання з многіх беларусаў выхаваліся рабы, манкурты, якім прывесілі здзеклівы ярлык «талерантнага народа». Вось, можа, выберуць нармалёвага прэзідэнта...»***

***Другі: «Пра якія выбары вартага прэзідэнта можа ісці гаворка? Калі б да нас з Амерыкі начальства прывезла негра, а з Чукоткі чукчу і прапанавала альтэрнатыўна выбраць аднаго з іх прэзідэнтам беларускай дзяржавы, даю слова, што нашыя выбаршчыкі не пакрыўдзілі б ніводнага з іх... Дваіх выбралі б... А ты кажаш пра беларускую нацыянальную ідэю. Хіба яна ў нас можа быць?»***

***Гаварылі з болем, горыччу і крыўдай за свой народ. Але і са спадзяваннем: а раптам ачомаемся.***

*Мікола КАПЫЛОВІЧ.*

У газетах

# Яшчэ аб нашай талерантнасці

***Менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» 19 красавіка г. г. пад рубрыкай «Пункт гледжання» змясціла артыкул кандыдата фізіка-матэматычных навук Анатоля Астапенкі «Міф аб талерантнасці».***

**На наш погляд, з некаторымі ацэнкамі аўтара пэўных падзей айчыннай гісторыі цяжка пагадзіцца. Так, напрыклад, ён рэзка адмоўна ставіцца да уніятаў і ордэна езуітаў на Беларусі ў мінулым. Але асноўная канцэпцыя А. Астапенкі, які сцвярджае, што агульнавядомая талерантнасць беларусаў з'яўляецца ўсталяваным міфам, заслугоўвае ўвагі. І, сапраўды, пры дэталёвым аналізе робіцца відавочным, што так званая талерантнасць, ці, дакладней, цярпімасць нашага народа, якую традыцыйна прынята лічыць станоўчай рысай нацыянальнага характару беларусаў, узнікла зусім нядаўна, толькі ў XX стагоддзі.**

**Аўтар артыкула лічыць, што так званая беларуская талерантнасць сваімі каранямі на самай справе мае вельмі прыкрыя, горкія з'явы. «Радавацца тут,— падкрэслівае ён,— няма чаму. Гэта, у рэшце рэшт, можа прывесці да знікнення беларусаў як адметнага народа ў сям'і народаў свету».**

**Заўважым, што падобныя думкі ў такой абвостранай форме ці не ўпершыню выказваюцца ў айчынным друку.**

**М. В.**

# „SANTA LUCIA“ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

***Гутарка з дацэнтам кафедры раманскіх моў 2-й спецыяльнасці Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта Н. К. Аляксеевай***

**— Ніна Кірылаўна, мы ведаем Вас як добрага спецыяліста па італьянскай мове. Дзе Вы вучыліся і чаму зацікавіліся менавіта італьянскай мовай?**

— Мне было гадоў дзесяць, калі я аднойчы паглядзела па тэлевізары нейкі спектакль тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі. Цяпер я ўжо нават і не памятаю назвы гэтага спектакля, але ў памяці засталася цудоўная неапалітанская песня «Santa Lucia», якая гучала там. З тых часоў гэтая мелодыя ўвесь час вярталася да мяне, і, безумоўна, пад яе ўплывам я захапілася італьянскай мовай. У 1957 годзе паступіла ў Ленінградскі універсітэт на філалагічны факультэт. Памятаю, што конкурс абітурыентаў быў вельмі высокі, таму што на аддзяленне італьянскай мовы і літаратуры павінны былі залічыць толькі пяць чалавек. Як медалістка я здала адзін уступны экзамен па англійскай мове на «выдатна», але... не прайшла па конкурсу. У прыёмнай камісіі мне параілі перапісаць заяву на аддзяленне французскай мовы і вытрымаць яшчэ тры экзамены па астатніх прадметах на агульных умовах. Я атрымала па ўсіх прадметах «выдатна» і была залічана на аддзяленне французскай мовы. Але мара пра італьянскую мову мяне не пакідала. І на вялікую маю радасць, пасля першага семестра ў італьянскай групе адбыліся пэўныя змены, і я афіцыйна была пераведзена туды.

**— Якое ў Вас было першае ўражанне, калі Вы пачулі, як гучыць італьянская мова не ў песнях, а ў студэнцкай аўдыторыі?**

— Я разгубілася. Пасля французскай мовы яна мне вельмі не спадабалася. Але адступаць назад я ўжо не магла, таму сама сябе пераконвала напачатку, што гэта толькі першае ўражанне. Затым усё ўсталявалася, і я захапілася па-сапраўднаму італьянскай мовай.

**— Вядома, што італьянская мова вельмі меладычная і прыгожая. А што як спецыяліст Вы можаце сказаць пра яе літаратурнае вымаўленне?**

— У яе аснове ляжыць фларэнційскі дыялект, дакладней, мова культурнага пласта гарадскога фларэнційскага насельніцтва. Аднак літаратурная мова паступова страчвае сувязь з тасканскім дыялектам і, такім чынам, становіцца мовай усіх жыхароў Італіі. Усе элементы італьянскай мовы на пісьме адносна уніфікаваны, але ўсё ж у некалькіх выпадках, дзе іх напісанне не давала дастатковага грунту для вымаўлення, разыходжанні засталіся. У Таскане, Умбрыі і Лацыуме, г.зн. у тых абласцях, дзе мясцовыя дыялекты нязначна адрозніваюцца ад літаратурнай мовы, існуе ўстойлівая традыцыя вымаўлення, агульная для ўсёй гэтай тэрыторыі. Аднак у Паўночнай, Паўднёвай і Астраўной Італіі вымаўленне ў значнай ступені адвольнае: у выпадках супадзення ці падабенства італьянскай формы з дыялектам пераважае дыялектнае вымаўленне, ва ўсіх астатніх выпадках узнікаюць разнастайныя змешванні і аналогіі. У сучаснай італьянскай мове сем галосных. Супрацьпастаўленне адкрытых і закрытых галосных, якое не залежыць ад пазіцыі і выконвае толькі сэнсаразлічальную функцыю, з'яўляецца аналагічным. Аднак такая сістэма галосных у італьянскай мове Тасканы і Рыма не можа прэтэндаваць на агульнае італьянскае прызнанне, паколькі на поўначы краіны закрытае або адкрытае вымаўленне гэтых галосных абумоўлена пазіцыйна, а таксама ў некаторых асобных рэгіёнах Поўначы і Поўдня яны ўвогуле маюць толькі адну закрытую або адкрытую рэалізацыю. Уплыў паўночнага варыянта вымаўлення не можа быць спынены ніякай рэформай «зверху». Лінгвістам толькі застаецца канстатаваць паступовае змешванне розных рэгіянальных сістэм і даць магчымасць вырашыць гэтае пытанне натуральнаму ходу падзей.

**— Якое ж вымаўленне бярэцца як эталон у італьянскіх школах, на радыё і тэлебачанні?**

— Школа не рэалізуе поўнасцю сваіх магчымасцей. Большасць выкладчыкаў пачатковай, сярэдняй і вышэйшай школ Поўдня і Поўначы або не ведаюць нормы, або не лічаць з ёю, або ўпэўнены ў непрымальнасці нормы, неадлюстраванай у напісанні. Спробы ўвесці на пісьме нейкія пэўныя знакі для адрознення 4 пар гукаў хоць бы ў школьных падручніках рабіліся ўжо ў 16 стагоддзі, але практычных вынікаў не мелі. Уніфікацыя вымаўлення дзякуючы радыё паступова становіцца ўсеагульнай патрэбай. Акцёры школы дэкламацыі арыентуюцца на фларэнційскае вымаўленне. Сярод дыктараў усталявалася фларэнційскае і рымскае.

**— Калі паглыбіцца ў гісторыю ўзнікнення італьянскай мовы, то ці можна сказаць, што паміж старажытнай італьянскай мовай і сучаснай ёсць дакладна вызначаная мяжа, якая аддзяляе, напрыклад, старафранцузскую або стараіспанскую мову ад сучаснай французскай або іспанскай. Тое ж самае можна адзначыць у ангельскай, нямецкай і іншых мовах.**

— У італьянскай мове такой мяжы няма. Нават неадукаваны італьянец, чытаючы Дантэ, магчыма, не зразумее зваротаў мовы, але ён ведае і адчувае, што гэта яго родная мова; француз, калі ён чытае, напрыклад, «Песнь о Роланде», можа не ведаць, што мова паэмы ўяўляе сабой адну са старажытных фраз той самай мовы, на якой ён размаўляе, і, безумоўна, калі ён хоча зразумець гэтую мову, яму трэба вывучыць яе як замежную і мёртвую. Распаўсюджванне і уніфікацыя французскай мовы адбывалася адначасова з умацаваннем каралеўскай улады над рознымі рэгіёнамі Францыі. Узнікненне ж і развіццё італьянскай мовы зусім іншую гісторыю. Значны ўплыў тут зрабіў літаратурны аўтарытэт Дантэ, Петраркі, Бакачыо, а таксама проза Мандзоні. На працягу шматлікіх стагоддзяў Італія была толькі геаграфічным паняццем. Палітычнага адзінства не было. Яго Італія дасягнула толькі ў другой палове мінулага стагоддзя (1870 г.), таму было імкненне да адзінства нацыянальнай культуры. З канца 14 ст. і да пачатку 16 ст. агульнай мовай для ўсёй Італіі паступова стала мова, наближаная да тасканскага дыялекту. Вось чаму мы адчуваем, што мова 14 ст. і сучасная, па сутнасці, адна і тая ж.

**— Што, на Вашу думку, паслужыла прычынай знікнення лаціны — старажытнай італьянскай мовы?**

— Звычайна лічаць, што лаціна загінула, паколькі гутарковая мова пачала вельмі істотна адрозніваціа ад пісьмовай мовы. Аднак, трэба заўважыць, што сувязь літаратурнай мовы з жывой гутарковай была вельмі павярхоўнай і моўны крызіс узнік не па віне гутарковай мовы, якая мае свае асабістыя шляхі развіцця незалежна ад мовы пісьмовай. Гэта здарылася таму, што паміж пісьмовай мовай і гутарковай не былі ўсталяваны нармальныя жывыя адносіны. Прэстыж літаратурнай мовы падтрымліваўся мовай канцылярска-тэхнічнай да таго часу, пакуль праз дзяржаўную адміністрацыю яна магла лёгка распаўсюджвацца па ўсёй тэрыторыі Рымскай імперыі. Такім чынам, мы бачым, што, з аднаго боку, гутарковая мова развіваецца сваім шляхам, а з другога боку, літаратурная мова, якая не мае пэўнай апоры, усё больш звужае сферу свайго ўжытку. Паступова знікае аб'ядноўваючая сіла імперыі, а разам з ёй і ўтвораная ёю агульная мова. Як бы мы не падыходзілі да гэтага пытання, нам усёроўна прыходзіцца канстатаваць цесную сувязь паміж мовай Рыма і існаваннем Рымскай імперыі. Дакладных дадзеных пра час і канчатковае знікненне лаціны не існуе. Гісторыя мовы называе толькі адну дату — 476 г. н.э.— дату падзення Заходняй Рымскай імперыі. Як літаратурная мова лаціна функцыяніравала да VIII ст. Царква не змагла захаваць лацінскую мову ў якасці мовы літургіі назаўсёды. У канцы пяцідзесятых гадоў нашага стагоддзя была праведзена рэформа, у выніку якой каталіцкая царква ва ўсіх краінах свету перайшла на нацыянальную мову.

**— Як Вам бачацца перспектывы пашырэння ўжывання італьянскай мовы ў нас на Беларусі?**

— У асноўным студэнты вывучаюць італьянскую мову з цікавасцю, я б нават сказала, з энтузіязмам. Як правіла, нашы выпускнікі ў далейшым працуюць менавіта з ёй. Робяць гэта прафесійна. Але, на маю думку, інтарэс да вывучэння італьянскай мовы ўзрос не з-за яе меладычнасці і прыгажосці, а ў чыста практычных мэтах: праца ў сумесных прадпрыемствах, магчымасць зарабляць валюту, паездкі ў Італію і г.д. Гэта мы таксама павінны ўлічваць у сваёй выкладчыцкай рабоце. Раней на занятках вывучалася больш класіка, а цяпер пераважаюць мадэлі, моўныя сітуацыі, прыбліжаныя да гутарковай мовы.

**— Ці вялікая колькасць студэнтаў лінгвістычнага універсітэта вывучае італьянскую мову?**

— Усяго 75 чалавек як другую замежную. Італьянская мова выкладаецца ў якасці другой замежнай мовы на факультэце англійскай мовы. Створана сем груп з другога па пяты курс. Некалькі гадоў назад італьянская мова пачала выкладацца як трэцяя мова маладымі калегамі, былымі вучнямі.

**— З кім Вы падтрымліваеце прафесійныя кантакты?**

— Лінгвістычны універсітэт падтрымлівае цесныя сувязі з італьянскім пасольствам, у прыватнасці з аташэ па справах культуры спадаром Леуцці Освальдо. Пад эгідай пасольства працуе таварыства «Дантэ Алігеры». Яго прэзідэнт Фёдар Цімафеевіч Міхасенка. Часта наведваем Італію, бо даводзіцца шмат працаваць у якасці перакладчыкаў. Падтрымліваем кантакты і з дабрачыннымі арганізацыямі ў Італіі, якія аказваюць гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля. Асабіста ў мяне добрыя прафесійныя кантакты са сваімі выпускнікамі, назіраю за іх прафесійным ростам, дасягненнямі.

**Інтэрв'ю падрыхтавала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

## *Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»*

М. В. БІЧ.

# Беларусы: вызваленчы рух, першая рэвалюцыя (1863—1907 гг.)

На мяжы 50—60-х гадоў мінулага стагоддзя Расія стаяла на парозе буржуазнай рэвалюцыі, галоўнымі задачамі якой з'яўляліся дэмакратызацыя дзяржаўнага ладу, вырашэнне аграрна-сялянскага і нацыянальнага пытанняў. Буржуазія з-за сваёй слабасці не праявіла сябе ў якасці самастойнай палітычнай сілы. Ураду фактычна супрацьстаяла толькі група рэвалюцыйных дэмакратаў на чале з М. Чарнышэўскім, М. Бакуніным, А. Герцэнам, А. Агаровым, якія выступалі ў якасці ідэолагаў усерасійскай сялянскай рэвалюцыі і спрабавалі стварыць партыю пад назвай «Зямля і Воля». З перамогай рэвалюцыі звязвалася ўстанаўленне народаўладдзя, перадача памешчыцкіх земляў сялянам, прадастаўленне прыгнечаным народам права на самавызначэнне свайго лёсу і стварэнне нацыянальных дзяржаў, а таксама рэалізацыя утапічнай ідэі пераходу да сацыялізму пры апоры на сялянскую абшчыну, ураўняльнае землекарыстанне і кааперацыю. Ідэі расійскіх рэвалюцыйных дэмакратаў, за выключэннем апошняй, падзялялі радыкальна настроеныя члены падпольных рэвалюцыйных гурткоў, створаных у той час у Пецярбургу ўраджэнцамі беларуска-літоўскіх і польскіх губерняў. Сярод іх былі выдатныя сыны Беларусі Канстанцін Каліноўскі, Валерый Урублеўскі і інш.

К. Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня (2 лютага) 1838 г. у Мастаўлянах Гродзенскага павета. Бацька яго быў у той час беззямельным шляхціцам, уладальнікам невялікай мануфактуры. З 1849 г. сям'я жыла ў набытым фальварку Якушоўка недалёка ад мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета. У 1852 г. Кастусь скончыў прагімназію ў Свіслачы, а ў 1860 юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Менавіта там сфарміраваўся яго рэвалюцыйны светапогляд.

У сакавіку 1861 г. К. Каліноўскі вярнуўся на радзіму. Той жа вясной ён пачаў ствараць на Гродзеншчыне рэвалюцыйную арганізацыю, куды ўвайшлі В. Урублеўскі, Ф. Ражанскі, І. Млевіч, С. Сангін і інш. Летам 1862 г. Каліноўскі стаў членам, а ў кастрычніку — старшынёй Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК) у Вільні — цэнтра «чырвоных» у Літве і на Беларусі, які ўзначаліў падрыхтоўку ўзброенага паўстання супраць царызму. Яно рыхтавалася ва ўзаемадзеянні з варшаўскім цэнтральным Нацыянальным камітэтам (ЦНК) і з кіруючымі цэнтрамі «Зямлі і Волі» ў Пецярбургу і Лондане.

Адзінства поглядаў на задачы паўстання не было. Расійскія рэвалюцыйныя дэмакраты ў сваёй праграме на першае месца вылучалі аграрнае пытанне. Сярод польскіх «чырвоных» пераважала памяркоўная плынь, прыхільнікі якой сваю галоўную задачу бачылі ў аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., г. зн. з далучэннем Беларусі і Літвы. Аграрнае пытанне для іх было другарадным. Вырашалі яго так, каб прыцягнуць да паўстання і памешчыкаў, і сялян. Першым абяцалі захаваць іх маёнткі і заплаціць за кошт дзяржавы за землі, адведзеныя для сялян, а другім — неадкладна перадаць ва ўласнасць атрыманыя па рэформе 19 лютага 1861 г. надзелы без адбывання часоваабавязаных адносін і выплачвання выкупных плацяжоў. Беззямельным сялянам за ўдзел у паўстанні праектавалася даць мізэрныя ўчасткі зямлі (3 моргі, каля 2 га).

К. Каліноўскі, паводле сведчання сучаснікаў, імкнуўся арганізаваць сялянскае паўстанне. Ён выступаў за раздачу ўсіх земляў, у тым ліку і памешчыцкіх. Разам з тым ён змагаўся за ўстанаўленне раўнапраўных адносін Варшавы і Вільні як цэнтраў падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем, за дзяржаўную самастойнасць Літвы — Беларусі. У сувязі з гэтым польскія нацыяналісты называлі яго «літоўскім сепаратыстам».

Летам 1862 г. выйшаў першы нумар газеты «Мужыцкая праўда», выданне якой арганізавалі К. Каліноўскі, В. Урублеўскі і Ф. Ражанскі. Друкавалася яна на беларускай мове лацінскім шрыфтам з выразнымі дыялектнымі асаблівасцямі Гродзеншчыны. Да лета 1863 г. выйшла 7 нумароў, кожны з якіх быў прысвечаны пэўным, набалелым для сялян пытанням.

У «Маніфесце» ад 10 (22) студзеня 1863 г. і двух аграрных дэкрэтах Часовага польскага нацыянальнага ўрада (былога ЦНК), якімі абвяшчаліся задачы і мэты паўстання, патрабаванні рэвалюцыйных дэмакратаў не былі ўлічаны. Аграрнае пытанне вырашалася надзвычай памяркоўна. Замест падушнага падатку ўводзіўся ранейшы (як у Рэчы Паспалітай) падымны падатак. 25-гадовая рэкрукская павіннасць замянялася ўсеагульнай трохгадовай вайсковай службай у сваім краі, адмянялася забарона уніяцкага веравызнання. Усё насельніцтва Польшчы абвяшчалася свабоднымі і раўнапраўнымі грамадзянамі. Быў выдадзены таксама спецыяльны зварот да насельніцтва Літвы і Беларусі з заклікам падтрымаць паўстанне. Аднак аб праве «правінцый» былой Рэчы Паспалітай на самавызначэнне свайго лёсу нічога не гаварылася.

20 студзеня (1 лютага) 1863 г. ЛПК,ператварыўшыся ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К. Каліноўскім, выдаў Маніфест да насельніцтва краю з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Дзеля адзінства баявых дзеянняў, якія ўжо пачаліся, ён быў вымушаны паўтараць у сваім Маніфесце праграму паўстання, абвешчаную ў Варшаве. Тым не менш «белыя», захапіўшы кіраўніцтва ў Польскім нацыянальным урадзе, 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім і перадалі яе віленскаму камітэту «белых», які стаў называцца Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Узначаліў яго ковенскі памешчык Якуб Гейштар. Ад імя гэтага аддзела быў распаўсюджаны спецыяльны дэкрэт, якім аб'яўляліся несапраўднымі і адмяняліся ўсе паўнамоцтвы і мандаты, выдадзеныя ЛПК. К. Каліноўскага прызначылі на пасаду Гродзенскага ваяводскага камісара.

Абмежаваная праграма паўстання выключала магчымасць шырокага ўдзелу ў ім сялянства, для якога быў зусім чужы лозунг польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Сярод расійскай грамадскасці, нават ліберальна-дэмакратычнай, гэты лозунг выклікаў небывалы ўздым шавінізму. Яму фактычна супрацьстаяў толькі герцэнаўскі «Колокол». Аднак прыхільнікаў у яго было мала. Праз дзяржаўныя ўстановы, царкву, школу, друк шавіністычная хваля шырока распаўсюджвалася ў народных масах Расіі. Яна паралізавала агітацыю рэвалюцыйных дэмакратаў, перакрэсліла іх надзеі на ўсерасійскае сялянскае паўстанне. Гэтым, па сутнасці, прадвызначаўся і лёс паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі. Спадзяванні паўстанцаў на дапамогу заходніх дзяржаў таксама не спраўдзіліся. У адзінаборстве з магутнай царскай арміяй паўстанне было асуджана на паражэнне.

У паўстанцаў адзінага плана баявых дзеянняў не было.Назіраліся спробы ўзаемадзеяння атрадаў у асобных губернях (ваяводствах), ды і яны, як правіла, заканчваліся беспаспяхова. Многія атрады былі разбіты царскімі карнікамі на стадыі фарміравання. Адносны поспех спадарожнічаў першаму выступленню атрада Людвіка Звяждоўскага, прызначанага кіраўніком паўстанцкіх сіл у Магілёўскай губерні. З дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута ў ноч з 23 на 24 красавіка 1866 г. яму ўдалося захапіць павятовы горад Горкі. Аднак мясцовыя сяляне не падтрымалі паўстанцаў, і атрад Звяждоўскага быў неўзабаве разбіты. У многіх месцах Магілёўскай і Віцебскай губерняў сяляне, прасякнутыя царысцкімі ілюзіямі, падманутыя дэмагагічнай агітацыяй уладаў і праваслаўнага духавенства, дапамагалі карнікам лавіць паўстанцаў, грамілі маёнткі памешчыкаў. Слабаарганізаванымі і беспаспяховымі былі дзеянні паўстанцаў і ў Менскай губерні. Адносна значную падтрымку сярод сялян, найперш казённых, паўстанцы знайшлі на Гродзеншчыне і Віленшчыне.

У цэлым на Беларусі сяляне складалі толькі 18 працэнтаў сярод удзельнікаў паўстання. Затое ўдзельная вага шляхты, праўда, беззямельнай і дробнапамеснай (фактычна — разначынцаў), дасягала 75 працэнтаў. Гэтыя дадзеныя не дазваляюць характарызаваць паўстанне 1863 г. на Беларусі як сялянскае.

У Гродзенскай губерні вясною 1863 г. дзейнічалі 5 паўстанцкіх атрадаў, у якіх налічвалася амаль 1700 чалавек. У маі яны правялі больш за 20 баёў з царскімі войскамі. Недахоп сіл вымушаў паўстанцаў выкарыстоўваць тактыку партызанскай барацьбы. Адзін з найбольш значных баёў адбыўся 21 мая каля мястэчка Мілавіда Слонімскага павета. З аднаго боку ў ім удзельнічалі каля 800 паўстанцаў (некалькі атрадаў), а з другога — 5 рот салдатаў, якія мелі 4 гарматы. Карнікі не змаглі ўзяць лагер паўстанцаў і з вялікімі стратамі адышлі. Поспехі паўстанцкага руху на Гродзеншчыне ў значнай меры былі абумоўлены самаахвярнай дзейнасцю К. Каліноўскага ў якасці ваяводскага камісара.

Падаўленнем паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы з сярэдзіны мая 1863 г. кіраваў новы віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў, які атрымаў ад Аляксандра II надзвычайныя паўнамоцтвы. Шэрагам рашучых мерапрыемстваў, жорсткімі рэпрэсіямі ён прымусіў «белых» памешчыкаў і вышэйшае каталіцкае духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання, што замацоўвалася падпісваннем вернападданніцкіх адрасоў на імя цара. Многія актыўныя дзеячы былі арыштаваны, расстраляны або павешаны. Замены ім не знаходзілася.

**(Працяг будзе)**

*ЗАМЕЖЖА*

# У беластоцкага «Часопіса» юбілей

Інфармацыйна-культурны штомесячнік «Часопіс», які выдаецца ў Беластоку, адсвяткаваў невялічкі юбілей: яго апошні, красавіцкі, нумар стаў саракавым з пачатку выдання. «За гэты час нашае выданне змяніла стыль афармлення, фармат, пашырылася кола чытачоў і супрацоўнікаў рэдакцыі. Але не змянілася галоўная ідэя, якой мы служылі на працягу гэтых гадоў,— даваць інфармацыю, пашыраць веды аб нашай мінуўшчыне і цяперашнім дні, апісваць цікавыя падзеі і цікавых людзей, палемізаваць і быць адкрытымі ўсім ініцыятывам»,— гаворыцца ў звароце рэдакцыі да чытачоў. «Часопіс» і сапраўды застаецца верным сваёй тэматыцы. З подпісам «Не забыць, хто мы ёсць» на вокладцы чацвёртага нумара змешчаны фотаздымак праваслаўнага мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Васілія. Далей цытуюцца словы ерарха, якога рэдакцыя віншуе з васьмідзесяцігоддзем: «Беларусь — гэта не штучная назва, гэта не пустое слова, а гэта жыццё, якое напісана на працягу вякоў рукою Тварца».

Старонкі выдання з першай па чацвёртую традыцыйна аддадзены паведамленням аб жыцці Беларусі, яе стасунках з Польшчай, падзеям на Беласточчыне ды цытатам з прамоў польскіх і беларускіх палітычных дзеячаў. Звяртаюць увагу прыведзеныя тут словы першых асоб абедзвюх краін. «Польшча валодае багаццем розных культур. Выкарыстоўваючы гэтае багацце, мы можам стаць дынамічным асяродкам гэтай часткі Еўропы» — прэм'ер Польшчы В. Павляк. «...прыярытэтам Беларусі, безумоўна, з'яўляюцца адносіны з Расійскай Федэрацыяй. У гэтым наш абгрунтаваны гістарычны выбар. Яго безальтэрнатыўнасць заключаецца ў агульнасці беларуска-расійскай культуры...» — прэм'ер Беларусі В. Кебіч.

Публікацыі на 6—8 старонках, змешчаныя ў агульнай рубрыцы «Здарэнне месяца», паведамляюць аб складаных адносінах, якія склаліся паміж рэдакцыяй тыднёвіка «Ніва» і кіраўніцтвам рэгіянальнага аддзела незалежнага прафсаюза «Салідарнасць».

Традыцыйна значная частка публікацый штомесячніка прысвечана праблемам гісторыі рэлігіі і культуры ў рэгіёне. Сувязям паміж праваслаўнай і паганскай абраднасцямі прысвечаны артыкул «Вербная нядзеля і Веліканоч ва ўсходнеславянскіх говарах Беласточчыны». Друкуюцца працягі ранейшых публікацый — «Царква ў падзеях Бельска» і «Аб пачатках праваслаўнага манастыра ў Супраслі. Міфы і факты».

Два артыкулы — «Палякі за Ольжай» і «Беласток — Эйдховен— Мінск» — прысвечаны праблемам нацыянальных меншасцей у сучаснай Еўропе.

«25% тэрыторыі было заражана моцна, 50% — сярэдне і толькі 25% — слаба»,— гаворыцца аб выніках, якія мела для Польшчы чарнобыльская ядзерная катастрофа, у матэрыяле «Чарнобыльская смерць у крэдыт». Гэты ж артыкул паказвае ўплыў гэтай буйнейшай у свеце тэхналагічнай аварыі на экалогію Беларусі і ўсёй Еўропы. Ілюстрацыяй да яго служыць складзеная японскімі навукоўцамі мапа рэгіёнаў, забруджаных цэзіем-137.

Спрэчкам вакол праблем гісторыі рэлігіі і фарміравання нацыянальнай свядомасці прысвечана палемічная публікацыя «Адказ рэцэнзенту».

Нумар закрывае традыцыйная рубрыка «Часопіса» — «Хроніка мясцовасці». На гэты раз чытачам прадстаўлена гісторыя Ямашаў — вёскі Крынкаўскага павета, вядомай з XVI стагоддзя і кінутай жыхарамі ў выніку падзеяў ваеннага і пасляваеннага часу.

**У. П.**



# «ХАЙ СВЕТ БУДЗЕ ВОЛЬНЫ!»

*16 красавіка ў менскім Доме літаратара прайшла міжнародная навуковая акадэмія «200 гадоў вызвольнага паўстання 1794 года». Яе наладзіў Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 200-х угодкаў вызвольнага паўстання 1794 года. З дакладамі выступілі 13 навукоўцаў з Менска, Гародні, Варшавы, Масквы. Прысутныя сардэчна прывіталі гасцей акадэміі — вядомых англійскіх даследчыкаў беларускай літаратуры і мовы — спадарыню Веру Рыч і спадара Джыма Дынглі. Пасля адбылася дыскусія і прэс-канферэнцыя.*

## «Хадзем жа за прыкладам французаў!»

заклікаў Якуб Ясінскі ў агалошаным 24 красавіка 1794 года віленскім акце паўстання, які падпісалі 2328 грамадзян Вялікага Княства Літоўскага.

Дасягненні французскай рэвалюцыі на той час былі добра вядомыя: у Парыжы 26 жніўня 1789 года ўстаноўчым сходам была прынятая Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна, якая абвяшчала юрыдычную роўнасць усіх сасловаў, свабоду слова, сумлення ды іншыя асноўныя правы чалавека. Паводле ўсеагульнага (для мужчын) выбарчага права быў абраны Нацыянальны канвент. Ён абвясціў Францыю рэспублікай і ў студзені 1793 года паслаў караля Людовіка XVI на гільяціну. У ліпені таго ж года былі канчаткова адменены ўсе феадальныя правы і прывілеі. Галоўнае — аграрнае — пытанне было вырашана на дэмакратычнай аснове: зямлю перадалі сялянам. Тады ж канвент зацвердзіў новую канстытуцыю. Дарэчы, гэты ж урад (канвент) прызнаў Касцюшку ганаровым грамадзянінам Францыі.

А ўвесну 1794 года ў Вільні чыталі верш Якуба Асіноўскага, у якім усхвалялася пакаранне смерцю Людовіка XVI: «...хай згінуць каралі, хай свет будзе вольны!» Аўтар, вядомы ў той час беларускі якабінец, адзін з найбольш рашучых і свядомых кіраўнікоў паўстання, меў намер не абмяжавацца вызваленнем Вялікага Княства Літоўскага, але ставіў сабе за мэту заваяваць волю і роўнасць для ўсіх грамадзян краіны, што азначала змену яе грамадскага ладу.

Такім рэвалюцыйным рухам ганарыўся б кожны народ, але наш, беларускі, быў не толькі адлучаны ад сваёе гісторыі, але і навучаны хваліць і ўшаноўваць заваёўнікаў і душыцеляў свабоды.

## «Прысягаю Госпаду Богу...»

Асноўны даклад навуковай акадэміі «Вызвольнае паўстанне 1794 года: прычыны, асаблівасці, значэнне» падрыхтавалі супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН Беларусі кандыдаты гістарычных навук Уладзімір Емяльянчык і Павел Лойка, загадчык аддзела эпохі феадалізму. Яго прачытаў Павел Лойка.

Ён пачаў сваё выступленне ўзнёсла, эмацыянальна, прысягай беларускіх паўстанцаў: «Я... прысягаю Госпаду Богу ўсемагутнаму, у тройцы адзінаму, у тым, што Айчыне маёй жыццём і маёмасцю найадданей служыць буду...»

Даследчыкі выявілі ў архівах шмат невядомых дакументаў, якія сцвярджаюць цалкам самастойны характар паўстання ў Вялікім Княстве Літоўскім, хаця яно і ўзнікла ў сувязі з агульнаеўрапейскім рэвалюцыйным уздымам таго часу. Гэты вызвольны дэмакратычны рух ахапіў і Беларусь. Больш таго, менавіта тут узгадаваліся два кіраўнікі паўстання ў Польскім каралеўстве — Андрэй Тадэвуш Касцюшка і Тамаш Ваўжэцкі (ён узначаліў паўстанцкае войска Польшчы ў лістападзе 1794 года).

Дакументы сцвярджаюць агульнанародны, дэмакратычны характар паўстання ў нашым краі. Рыхтавалі гэты чын антыманархісты, прыхільнікі рэспубліканскага ладу. 29 з іх аб'ядналіся і ўтварылі Найвышэйшую нацыянальную Раду Вялікага Княства Літоўскага. Асноўны лозунг беларускіх інсургентаў — ВОЛЯ, РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — патрабаваў роўнасці не толькі сацыяльнай, але і роўнасці дзвюх дзяржаў, што аб'ядналіся ў Рэчы Паспалітай абаіх народаў. Гэта яскрава сведчыць, што і да 1794 года, і пасля — незалежна ад выніку паўстання — кіраўнікі беларускіх інсургентаў бачылі Вялікае Княства Літоўскае незалежным. Дакументы пераканаўча аспрэчваюць распаўсюджанае меркаванне: калі б паўстанне 1794 года перамагло, то наш народ загінуў бы, быў бы ператвораны ў польскіх рабоў, знікла б і наша дзяржава.

## «Прыгонны» — слова праклятае»...

Так пісаў наш суайчыннік Андрэй Тадэвуш Касцюшка ў адным з лістоў М. Залескаму яшчэ ў 1791 годзе. І ў сваіх універсалах падчас паўстання Касцюшка агалошваў прывілеі для сялян. Ён жа марыў, каб зусім вызваліць сялян: «Каб у іншым краі, дзе ўрад мог бы забяспечыць маю волю, зусім бы вольнымі іх зрабіў». (Дарэчы будзе згадаць, што менавіта ў Амерыцы Касцюшка так і зрабіў: даў вольную неграм, якіх яму падараваў урад ЗША). І пазней, аддаючы свой маёнтак Сяхновічы сястры, ён ставіў ёй умову: «Каб гаспадары ўсёй вёскі з кожнага дому не рабілі больш як толькі два дні мужчынскай паншчыны, а жанчыны зусім не...» «За адну шляхту біцца не буду!» — гэтыя словы Касцюшкі маглі б паўтарыць і кіраўнікі паўстання ў ВКЛ. «Усе мы людзі і грамадзяне адной Айчыны»,— так яны звярталіся да суайчыннікаў. А таму іх заклікі знайшлі водгук сярод простага люду нашай дзяржавы. Сяляне пайшлі да інсургентаў: у некаторых паўстанцкіх атрадах трэць жаўнераў ваявала з косамі ў руках. Касінеры прымалі ўдзел у вядомых бітвах каля вёскі Паляны, каля мястэчка Солы.

Можна сабе ўявіць, як галоўная паўстанцкая мэта — роўнасць — напалохала расійскі царскі ўрад. Кацярына II яшчэ не забылася пра сялянскую вайну пад кіраўніцтвам Пугачова, не прайшло яшчэ і дваццаці гадоў, як А. В. Сувораў пасля задушэння таго сялянскага бунту прывёз палоннага Пугачова ў Сімбірск. А тут зноў, хоць і ў захопленым краі, пачынаецца паўстанне, пасля перамогі якога сяляне, цалкам вольныя, павінны атрымаць зямлю. Царызм палохала нават сама назва — дэмакратычная дзяржава. Напэўна, ведала Кацярына II, што Касцюшка намерваўся несці ідэі свабоды і дэмакратыі аж на берагі Нявы. І ўвесь свой гнеў яна абрушыла на «польскіх якабінцаў» — паслала на задушэнне паўстання «дасведчанага» Суворава. І як яшчэ зусім нядаўна рэакцыйная кааліцыя выступіла супраць рэвалюцыйнай Францыі, так цяпер усе тры імператарскія двары з нянавісцю кінуліся на непакорную Рэч Паспалітую. Народнае паўстанне было задушана. Гэтае паражэнне значна — магчыма, на 200 гадоў — запазніла развіццё дэмакратыі і прагрэсу ва ўсёй Еўропе, не кажучы ўжо пра Беларусь. Паражэнне паўстання 1794 года было паражэннем дэмакратыі ва ўсёй Еўропе.

## Канстытуцыя 3 мая 1791 года

Некаторыя гісторыкі адмаўляюць самастойнае існаванне беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — напярэдадні паўстання 1794 года на падставе прыняцця Канстытуцыі 3 мая 1791 года, якая нібы ліквідавала самастойнасць ВКЛ. Такое меркаванне не пацвярджаецца ні адным словам гэтага дзяржаўнага акта Рэчы Паспалітай,— пераканаўча сцвярджае беларускі даследчык, доктар юрыдычных навук, прафесар Язэп Юхо. У сваім грунтоўным дакладзе ён падрабязна ахарактарызаваў усе 11 артыкулаў Канстытуцыі, а таксама назваў асноўныя падставы незалежнасці ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Наша дзяржава захавала ўласнае войска, Галоўны Трыбунал, Статут 1588 года, які быў фактычна Канстытуцыяй ВКЛ. Усе мясцовыя органы маглі камплектавацца выключна з ураджэнцаў ВКЛ, пераважна з той мясцовасці, дзе яны спраўлялі ўладу. Больш таго, самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага не аспрэчвала і Канстытуцыя 1793 года, прынятая на Гарадзенскім сейме Рэчы Паспалітай.

## Касцюшка — жывая легенда

Цікавы даклад прачытаў на акадэміі доктар гістарычных навук Вячаслаў Шалькевіч — «Паўстанне 1794 г. і Кастусь Каліноўскі». Паўстанцы 1794 года, ды асабліва яго кіраўнікі, на працягу ўсяго XIX стагоддзя служылі не аднаму пакаленню беларусаў і палякаў прыкладам самааддананай барацьбы з царскім самадзяржаўем. Кастусь Каліноўскі высока цаніў Касцюшку і надаваў вялікую ўвагу яго ідэям пра вырашэнне сялянскага пытання, асабліва Паланецкаму універсалу, які злагоджваў гаспадарчыя павіннасці сялян і запэўніваў ім належную ўрадавую апеку, забяспечваў недатыкальнасць уласнасці і справядлівасць, абвяшчаў, «што асоба кожнага селяніна вольная і што яму можна перасяліцца куды хоча...». Невыпадкова Паланецкі універсал і яго аўтар былі вельмі папулярнымі сярод сялян.

Хто ведае, верагодна, беларускія народныя песні, легенды і паданні пра Касцюшку — як пра народнага героя Беларусі, пачутыя Каліноўскім у маладосці, вызначылі яго далейшы лёс — лёс змагара за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, за вызваленне сялян з прыгону.

Пра традыцыі Тадэвуша Касцюшкі ў польскім войску гаварыў доктар Генрык Піскуновіч, супрацоўнік Інстытута ваеннай гісторыі.

Там здаўна існуе традыцыя выбару вайсковымі фарміраваннямі свайго патрона. Вялікі маральны аўтарытэт Касцюшкі спрычыніўся да таго, што яго імя насілі і носяць лепшыя з лепшых. З сумам слухаў я, ды верагодна, таксама іншыя прысутныя, пра гэтую слаўную традыцыю. У нас жа ўсё наадварот. Нездарма ў дыскусіі і на прэс-канферэнцыі былі ўзняты пытанні пра перайменаванне Менскага суворапаўскага вучылішча, пра неабходнасць яго расфарміравання, пра Кобрынскі музей імя А. В. Суворава.

Трохі з іншага боку высвецілася асоба Касцюшкі ў выступленні Адама Мальдзіса. Ён выказаў сваю думку: што было б, калі б паўстанне 1794 года перамагло? (Такая, можна сказаць, унутраная дыскусія завязалася на акадэміі). Што тады было б з Беларуссю? Адам Іосіфавіч мяркуе, што напачатку беларусам, украінцам, жамайтам было б горш. Іх нацыянальныя ідэі не знаходзілі б падтрымкі, таму што барацьба з трыма захопнікамі патрабавала б кансалідацыі. Звычайна ў такіх выпадках агульнадзяржаўныя інтарэсы бяруць верх над прыватнымі інтарэсамі асобных народаў, што ўваходзяць у дзяржаву. Такую сваю выснову А. Мальдзіс пацвердзіў вытрымкамі з ліста Касцюшкі да згаданага ўжо М. Залескага, у якім кіраўнік паўстання пісаў, што русінаў трэба прызвычаіць да польскай мовы. Адам Іосіфавіч мяркуе, што такое выказванне Касцюшкі трэба тлумачыць так: Касцюшка як прадстаўнік веку асветніцтва быў чалавекам свайго часу і на першы план ставіў інтарэсы чалавека, асобы, дзяржавы, нацыянальныя ж інтарэсы адыходзілі на другі план. Такога стаўлення вымагала кансалідацыя дзеля барацьбы за свабоду, хаця добра вядомы «літоўскі» (г. зн. беларускі) патрыятызм Касцюшкі, яго словы: «Нарадзіўся я літвінам» ды жаданне служыць у войску Вялікага Княства Літоўскага, што дало падставу абвінавціць Начальніка (так называлі Касцюшку) ў «літоўскім» сепаратызме.

Але ў будучым, як мяркуе А. Мальдзіс, перамога паўстання 1794 года прывяла б да таго, што «Рэч Паспалітая абодвух народаў» сталася б «Рэччу Паспалітай чацвярых народаў» (г. зн. яшчэ жамайцкага і украінскага). Сепаратысцкія тэндэнцыі ў гэтай дзяржаве прывялі б да вызначэння нацыянальнай самасвядомасці, што і адбылося, прыкладам, у першай палове XIX стагоддзя ў іншых краінах са славянскім насельніцтвам. І пры ўмове перамогі паўстання фарміраванне беларускай нацыі, пераканаўна А. Мальдзіс, адбылося б на стагоддзе раней.

## На новай беларускай мове

Асноўная ж тэма выступлення Адама Мальдзіса — уплыў паўстання 1794 года на развіццё беларускай літаратуры. Менавіта ў той час з'явіліся першыя палітычныя творы, якія былі напісаны на новай беларускай мове. У прыватнасці, «Песня касцюшкоўскіх жаўнераў 1794 года». Вядомы таксама іншыя творы, напісаныя пад уплывам паўстанцкіх песняў. Гэта быў першы зварот да народа, да сялян з пазіцыі шляхецкіх рэвалюцыянераў. Прыкладам, у Расіі такое мы бачым значна пазней,— у творах дзекабрыстаў.

Паўстанне 1794 года спарадзіла і беларускую сатырычную паэзію.

Важную праблему ўзняў у сваім выступленні на навуковай акадэміі вядомы літаратуразнавец Уладзімір Мархель. Ён па-новаму ацэньвае творчасць польскамоўных паэтаў і пісьменнікаў, якія нарадзіліся і жылі на Беларусі. Да гэтага часу, як мяркуе У. Мархель, наша літаратуразнаўства не звяжала на білінгвізм аўтараў, не ўлічвала, што літаратура — з'ява культуры і даследавала не літаратурны працэс, а толькі яго вынік — польскамоўны твор. А таму ўся творчасць беларускіх шляхецкіх паэтаў і пісьменнікаў залічвалася ў даробак польскай літаратуры. Дакладчык выказаў яшчэ адну цікавую думку: не творы завозіліся на Беларусь, а польская мова, ужыванне якой, дарэчы, заахвочвалася царскім урадам.

Музыка гучала перад пачаткам акадэміі. І завяршалася яна гукамі паланеза. Вядомы беларускі музыказнавец Вольга Дадзіёмава не толькі расказала пра творчасць аднаго з найбольш актыўных удзельнікаў паўстання 1794 года — Міхала Клеафаса Агінскага, але і паведаміла пра Касцюшку... кампазітара. Яна сама выканала паланез Касцюшкі, які доўгі час прыпісвалі Агінскаму, і толькі на падставе знаходак у Лонданскім архіве было вызначана сапраўднае імя аўтара.

Цікавыя даклады (і выступленні ў дыскусіі) даюць падставу сцвярджаць, што рэвалюцыйны ўздым нашага народа ў 1794 годзе, нягледзячы на паражэнне паўстання, спрычыніўся да ўмацавання нацыянальнага духу, паўплываў на культуру і творчасць нашага народа.

З. СІЦЬКО.

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

***«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна руплівцаў беларушчыны***

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 600 руб. у месяц ці 1800 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.

## УВАГА!

Кіёск ТБМ, які мясціўся на праспекце Скарыны, 18 у Менску, пераехаў на адрас: рог вуліцы Румянцава, 11 і Захарава, 21 (каля будынка Беларускага лінгвістычнага універсітэта), раён прыпынку метро «Пляц Перамогі».

### *Афарызмы*

*Мація БОЧКАВІЧ*

Ці дзеля існавання аднаго народа патрэбна як мінімум два?

Ці можна з некалькіх праблематычных народаў стварыць адзін добры?

Ці два народы могуць стварыць трэці народ?

Ці ёсць такі малы народ, чыя гісторыя невялікая?

Ці дастаткова свабоды на ўсе народы?

Ці хопіць часу, каб кожны народ атрымаў перамогу?

Ці існуе найгоршы народ на свеце?

Ці дзеля братэрства і адзінства патрэбны два народы?

Ці можа быць кожны сынам свайго народа?

Ці наш народ у замежжы вядомы больш, як тут?

Пераклаў з сербскахарвацкай мовы
Іван ЧАРОТА.

## КАЛЯНДАРНЫ ПЛАН РАБОТЫ
## Дома літаратара
## на ТРАВЕНЬ 1994 года

| | |
|---|---|
| 18 траўня 18.30 | Творчы вечар паэта Авяр'яна ДЗЕРУЖЫНСКАГА. |
| 19 траўня 18.30 | Вечарына беларуска-латышскага спараднення, прысвечаная памяці Яніса РАЙНІСА і 100-годдзю з дня нараджэння Яніса СУДРАБКАЛНА |
| 23 траўня 16.00 | «Пачуйце, як пяюць анёлы...» Духоўнаасветніцкія чытанні ў гонар Агульнанароднага Дня Святой Еўфрасінні ПОЛАЦКАЙ |
| 24 траўня 18.30 | Беларуская паэзія ў творчасці кампазітара Паўла ЯРОМЕНКІ |
| 25 траўня 18.30 | На Дзяржаўную прэмію Беларусі. Цыкл дакументальных і навукова-папулярных фільмаў рэжысёра Станіслава ГАЙДУКА «Чырвоны дзень календара», «Роздум ля палітры», «Кірыла Тураўскі», «Іван Насовіч», «Вянок цярновых васількоў», «Рэха збройнага чыну», «Самотная альба верніка». |
| 26 траўня 18.30 | На Дзяржаўную прэмію Беларусі. Дакументальныя фільмы рэжысёра Міхася ЖДАНОЎСКАГА «Дарога на Курапаты», «Жаўрукі Беларусі» |
| 30 траўня 18.30 | На Дзяржаўную прэмію Беларусі. Мастацка-публіцыстычныя фільмы рэжысёра Віктара ДАШУКА «Чурбанаў і іншыя», «Віцебская справа» |
| 31 траўня 18.30 | Урачысты вечар, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў |

## УВАГА!

21—22 траўня ў Вільні мае адбыцца святкаванне 75-годдзя Віленскай беларускай гімназіі. Да ўдзелу ў ім арганізатары ласкава запрашаюць былых вучняў і выкладчыкаў. Каб паведаміць нам пра час свайго прыезду, просім звяртацца на адрас: Вільня, вуліца Студэнту, 39-527, альбо па тэлефонах 35-58-01 (беларуская кафедра Педагагічнага універсітэта) ці 40-90-01 (Лявон Луцкевіч).

*Аргкамітэт.*

### *ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»*

Адзін дасціпны чалавек вырашыў даведацца, хто давёў да галечы наш край. Узяў ён кіёк, павесіў цераз плячо торбачку ды падаўся ў вандроўку. Завітаў у адзін калгас. Сумнае відовішча. Паліва няма. Тэхніка не працуе. Мужыкі з бабамі па хатах сядзяць.

— Хто вінаваты ў бядзе вашай, людзі?

— Дэмакраты, — прагучаў аднагалосны адказ.

Завітаў ён на фабрыку. Сыравіны няма. Электраэнергіі бракуе. Рабочыя ўсю змену «казла забіваюць».

— Дэмакраты так іх так, — лаюцца рабочыя. — Усё скралі.

Захацеў чалавек пабачыць тых зладзеяў-дэмакратаў. Доўга блукаў ён па вёсках і мястэчках нашых. Нідзе іх не бачна. Натаміўся. Вырашыў адпачыць ды збочыў са шляху. Раптам бачыць: у некалькі паверхаў шыкоўны палац. А вакол яго плот, гарматаю не разбурыш. Нават вартаўнік ля брамкі стаіць. Побач на лужку кабета на сонейку песціцца.

— Вось і знайшоў я вас, дэмакраты, — узрадаваўся чалавек.

— Нічыпар! Нічыпар! Спускай сабаку, — заляментавала жанчына. — Агітатар з БНФ прыйшоў.

●

Старшыня Вярхоўнага Савета робіць абвестку:

— Шаноўнае спадарства, працягваем пасяджэнне. Мае цца адбыцца цікавы выступ. Пабудзіце сваіх суседзяў... Цудоўна, усе прачнуліся. А зараз слова даецца народнаму дэпутату Лукашэнку.

Учуў
Юрыс ПАЛУБЕТКА.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Заказ 73.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7730 паасобнікаў
Падпісана ў друк 6.05.1994 г.
у 15 гадзін.